# НАША РАБОТА ЛЕТАМ.

Часта прыходзіцца чуць, што асобныя піонэры, групы, бываюць нездаволены работай у атрадзе. „Нам сумна", „Націкава",—кажуць яны, а забываюць тое, што гэта ўсё, галоўным чынам, залежыць ад іх саміх.

Піонэры самі павінны організаваць работу, самі будаваць яе. Часта памыляюцца піонэры, калі яны ўсю віну за дрэнную работу атрада ўскладаюць на свайго павадыра.

Трэба памятаць, што павадыр, перш за ўсё,—старэйшы таварыш, а не ўсёзнайка, ад работы якога ўсё поўнасьцю і залежыць. Каб піонэры маглі патрабаваць ад павадыра, ім трэба, перш за ўсё, дапамагчы яму. Кожны піонэр, кожнае зьвяно, і асабліва савет атрада—гэта павінны памятаць. А каб не надаела і было весела, ня трэба на кожным зборы займацца аднымі гутаркамі.

Трэба ведаць, што толькі тады будзе добра разгортвацца работа, калі яна будзе цікавіць кожнага піонэра, кожнае зьвяно.

Дзяцей у летні час вабіць да сябе рэчка, лес, поле—там так весела і цікава!

Кепскі той будзе атрад, які гэтага ня будзе ўлічваць. Ды і неорганізаваныя ня прыдуць да яго. Адсюль задача для кожнага піонэрскага атрада ў летні пэрыод.

Больш масавай і цікавай працы для сябе і для другіх—непіонэраў.

Больш прагулак, экскурсій, колектыўных купаньняў, катаньняў на лодках, „паходаў" па грыбы і ягады ў лес, за рыбай на рэчку.

Для кожнага будзе цікава, калі атрад возьмецца за організацыю больш вясёлых, разумных, колектыўных забаў і работы на сьвежым паветры, калі ён дасьць магчымасьць піонэрам наглядаць за жыцьцём у сваім раёне, акрузе, Саюзе,—знаёміцца з акружаючым жыцьцём.

Улетку дзеці будуць мець вольнага часу больш, чым узімку, асабліва гарадзкія і местачковыя. Гэты час трэба толькі разумна выкарыстаць. Трэба даць дзецям карысную гульню, організаваць чытаньне цікавых кніжак і г. д.

Піонэрскі атрад павінен загадзя падрыхтавацца да гэтай работы і ведаць, якія задачы стаяць перад ім на летні пэрыод.

*Для горада і мястэчка.* Кожны атрад, галоўным чынам, разгортвае формы масавай работы, абяднае неорганізаваных дзяцей. Напрыклад: організацыя колектыўнага купаньня, наказ піонэрам, якія выяжджаюць у вёску на летні час, організацыя конкурсаў па авіа-хэмічнай справе, дапамога групам піонэраў-рыбаловаў, натуралістых, краяведаў і г. д.

Акрамя гэтага, кожны атрад выбірае па сваёй сіле і магчымасьці якое-небудзь з наступных заданьняў:

а) Організацыя летняй пляцоўкі для піонэраў і неорганізаваных дзяцей.

б) Організацыя лягеру.

в) Організацыя вялікай экскурсіі-паходу.

Атрадам трэба падумаць і над распаўсюджваньнем сярод піонэраў і дзяцей газэт і кніжак, над тым, каб організаваць чытаньне гэтых кніжак. Трэба падумаць аб тым, каб організаваць чытальню. Калі не ўдасца організаваць асобную чытальню, дык лепш за ўсё пры комсамольскай альбо пры рабочым клюбе і г. д.

*Для вясковага атрада.* У летні час перад піонэрскімі атрадамі ў вёсцы стаяць некалькі сур'ёзных задач. Адна з галоўных задач—гэта прыняць удзел у палепшаньні сельскай гаспадаркі. Многія атрады ў гэтай рабоце маюць дасягненьні: маюць колектыўныя агароды, піонэрскія градкі. Гэтым летам, па прыкладу некаторых атрадаў, трэба ўзяцца ўсім вясковым атрадам за організацыю агародаў пры школах, школкаў (пітомнікаў) садовых дрэў, градак і г. д. Організацыя экскурсій у сельхозы і колектыўныя гаспадаркі, знаёмства з пастаноўкай іх работы.

Як практычную работу, варта адзначыць на неабходнасьць удзелу дзяцей у гадаваньні курэй, работа па палепшаньню кораньплодаў (лепшы догляд за пасевамі), барацьба з шкоднікамі сельскай гаспадаркі.

Гэта першая задача.

Другая. Кожнае зьвяно, кожны піонэр павінны падумаць над тым, як організаваць навакол сябе неорганізаваных дзяцей, якія яшчэ ня ўступілі ў піонэрскі атрад, дапамагчы ім організавана, весела, з карысьцю для сябе і акружаючых правесьці лета.

Вялікую карысьць у гэтай справе можа зрабіць пляцоўка.

Пляцоўка павінна быць цэнтрам летняй работы вясковых піонэраў. На пляцоўцы піонэры будуць організоўваць усю работу.

Экскурсіі, прагулкі, вясёлая гульня і колектыўныя песьні, „вячорка" на адчыненым паветры павінны заняць у рабоце большае месца і організоўвацца праз пляцоўку. Пляцоўка павінна стаць прываблівающым месцам усіх сялянскіх дзяцей.

Трэцяя задача—гэта разгортваньне вайскова-санітарнай работы. Пешаходныя экскурсіі, паходы ў сьвяточныя дні ў суседнюю вёску, саўхоз, у бліжэйшае мястэчка, горад павінны практыкавацца ў большай меры, чым калі. Заняцца разьвядзеньнем паштовых галубоў, скарыстоўваючы іх для сувязі паміж атрадамі.

Устанавіць нагляд за санітарным становішчам студняў, двароў, а таксама за лепшым трыманьнем самых піонэраў, каб трымалі сябе чысьцей, хадзілі акуратна ў лазьню, сачылі за чыстатой сваёй вопраткі, догляд за зубамі, рукамі...

Вось тыя галоўныя задачы, якія павінны быць праведзены ў жыцьцё піонэрамі ўлетку гэтага году.

Дык, за практычную працу!

Рэдколегія: АДЗІНЕЦ М., БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., ЯКІМОВІЧ А.

Адказны рэдактар А. ПЯКАРЧЫК.

*Год выданьня 4-ы.* **Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!**




| УМОВЫ ПАДПІСКІ: | ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР. | АДРАС РЭДАКЦЫІ: |
|---|---|---|
| На 1 месяц . . . — р. 20 к. | | МЕНСК, |
| „ 3 „ . . . — р. 60 к. | | Комсамольская, 25. |
| „ 6 „ . . . 1 р. 20 к. | | |

**№ 8** **КРАСАВІК** **1928 г.**

# Вы камунізм дабудуеце.

*(Ленін аб моладзі ў першамайскае сьвята 1919 г.)*

Мне ўспамінаецца зараз гэты прыгожы сонечны дзень.

Ленін на трыбуне на Чырвоным Пляцы, у Маскве. Вакол мора галоў—дзяцей, падросткаў, юнакоў, дзяўчат. Гэта прышлі школы, гэта прышлі атрады комсамольцаў на пляц у дзень 1-га мая. Яны акружылі пляц вакол трыбуны, якая прыгожа блішчэла на сонцы. Ленін перахінаецца цераз край трыбуны—увесь імкненьне, парыў, увесь—гарачае пераконваючае слова. Ленін зварачаецца да моладзі і кажа аб тым, што якраз гэта моладзь дабудуе і давядзе да канца справу, пачатую пакаленьнем, да якога належыць і Ленін:

— Мы ня ўбачым ужо росквіту комунізму—вы яго ўбачыце, вы яго дабудуеце...

— Нам суджана было пайсьці вельмі суровым, цяжкім шляхам,—шляхам крывавай барацьбы...

— Мы павінны былі прабіваць дарогу. Многія з вас, дзяцей, шчасьлівы тым, што вам ня прыдзецца ісьці гэтай, цяжкай, жорсткай дарогай...

Гэта гучыць папрароцку, натхнёна гэта запамінаецца на ўсё жыцьцё...

Вы ведаеце, якія вялізарныя надзеі, ўскладаў Ленін на рабочую моладзь. Там, дзе патрэбны былі ўмеласьць і трайная адвага, дзе патрэбна была ўпэўненасьць, што мы зможам загінуць усе, але не прапусьцім ворага, дзе патрэбна была адважнасьць, адважнасьць і яшчэ раз адважнасьць,—Ленін высоўваў рабочую моладзь. Рабочая моладзь апраўдала гэтыя надзеі Леніна, гэту яго ацэнку, і мы ўпэўнены ў тым, што рабочая моладзь, якая цяпер ідзе з нізоў у атрады юных піонэраў, у комсамол, ідзе на зьмену комуністычнай партыі, і будзе рашучым пакаленьнем ленінцаў, якое зьмесьціць у сабе яго лепшыя рысы і правядзе ў жыцьцё яго заветы.

**Ем. Яраслаўскі.**






*Верш* **Таўбіна.**

Сьмелы, жвавы чарнамазы Янка,
Ўсё ён знае, ўсё ён прасачыў...
Ён умее падмануць паліцыянта
Ї адозвы параскляйваць уначы...
Да ўсяго у Янкі свойскі навык,
На трамвай ускочыць ён з разьбегу...
Кожны рог на вуліцах Варшавы
Часта бачыў Янку ля сябе.
Бацька Янкаў—просты мэталісты,
З рэзкім кашалем надломаных грудзей;
Ён дамоў прыходзіць
Вечарам імглістым
Ї назад такой-жа раніцай ідзе.
У яго заўжды у брудзе рукі,
На руках агрублых—мазалі...
Ён ня любіць гарадзкога бруку
Ї айчынаю яму—палі...
Неяк раз у дзіўным захапленьні
Бацька з Янкам доўга гаманіў:
Як памёр і жыў вялікі Ленін
Ї пра тое,
Што такое „комуніст“.
Ї яшчэ казаў яму няўпынна,
Седзячы ля сына, ён цяпер
Пра адну цудоўную краіну
З нязвычайным імем:
„С.С.С.Р.“
...„Там зусім інакшыя варункі,
Там рабочыя ля ўладнага старна...
Там няма, вядома, „пастарункаў“
Ї цьвіце прыгожасьцю вясна.
Дзеці там ня бегаюць па скверах,
Майстар іх ня будзе там цкаваць,
У атрадах Юных Піонэраў
Яны вучацца краіну будаваць.
А ў нас ужо павольны ропат
Пераходзіць ў роспач дзікую і шэпт...
Прыдзе час—
Работнікі і хлопы
Зробяць так-жа ў нашай старане.
. . . . . . . . . . . .
Гэта ўсё запомніў добра Янка,
Ї цяпер ня будзе болей ён
У гандляркі красьці абаранкі
Ї са сьвістам бегчы за адхон.
Сёньня дзень ён ходзіць у чаканьні,
Покуль вечар заблукае на страсе.
Позна вечарам яму з друкарні
Бацька новыя лістоўкі прынясе.
Ў тых адозвах, што аблітыя крывёю—
Заклікаюць ўсіх рабочых сьвяткаваць:
Кідаць працу й вольнаю гурбою
Выйсьці май спаткаць...
А калі зблякнее месяц воскам
Ї над местам зоркі праліюць агні,—
Стане Янка па вітрынах і кіосках
Прыбіваць адозвы ў цішыні.
...Ціха-ціха...
Крадзецца ён па кварталах,
Па ваколіцах мільгае Янкаў стан...
Варта ўся „насамі заклявала“,
Ї храпе стары паліцыянт...
Заўтра раньнем мо‘ зьбярэцца натаўп
Ї чытаць адозвы ўголас будуць тут:
Ї тэкстыльшчыца суседняя—Агата,
Ї рабочыя са шкляных гут...
...Вось і раньне ў сонечныя канты
На ўсходзе вышыла прастор...
Трэ‘ сьпяшацца...
Вунь паліцыянты
Пачынаюць ранішні дазор.
А цяпер упрочкі!..
Хто стрымае Янку,
Як памчыцца праз канавы і равы,
Ён умее падманіць паліцыянта
Ї ўцячы ад „прэндкіх“ вартавых...

# Старонка з мінулага.

1-га мая 1907 г. Год цяжкі. Рэволюцыя прыдушана. Лепшыя партыйныя працаўнікі ці загінулі на шыбеніцы, ці пакутуюць на катарзе і ў турмах.

За некалькі дзён да 1-га мая зноў арышты. Але гэта не перашкаджае пролетарыяту гораду Вільні адзначыць сваё сьвята: рэволюцыя выгадавала зьмену.

На партыйным сходзе ўхвалена разьвесіць 1-га мая на тэлеграфных слупох чырвоныя сьцягі: „Няхай чырвоны сьцяг, афарбаваны крывёю рабочых, разьвіваецца над нашым горадам, няхай ён кліча ўсіх на барацьбу“.

Праца разьмяркоўваецца паміж прысутнымі.

Раптам раздаецца гучны малады голас: „Прашу слова“.

Устае Валодзя, вучань рамесьніцкай школы.

Валодзя—сірата, выхаванец прыюту. З прыюту папаў у рамесьніцкую школу і ў гэтым годзе яе канчае.

— Няхай чырвоны сьцяг разьвіваецца з вежы касьцёлу, самай высокай вежы ў нашым горадзе. Мы пакажам, што зможам прабрацца ўсюды.

— Добра, але як гэта зрабіць?—чуецца недаверлівы голас.

— Дазвольце толькі. Мы з таварышамі зробім.

Дазвол дадзены...

... Раніца 1-га мая. Прыгожы сонечны дзень. На многіх тэлеграфных слупох красуюцца чырвоныя сьцягі. Іх пасьпешна зрывае паліцыя.

Ля касьцёлу сабраўся народ: ксёндз, які ішоў служыць абедню, некалькі гандлярак, сяляне, што ехалі на рынак, кучка рабочых. Усе глядзяць кудысьці ўверх. У адных на твары адбітак нездавальненьня, у другіх—радасьць. Хутка падыходзіць гарадавы, таксама падымае галаву і са зьдзіўленьнем спыняецца: на вежы пад яркімі праменьнямі вясеньняга сонца разьвіваецца сьцяг працы і барацьбы.

Гарадавы зараз-жа паведамляе начальства; паведамленьне даходзіць да губарнатара. Той дае загад зараз-жа зьняць сьцяг, але гэта ня так лёгка. Даводзіцца выклікаць пажарных.

Хто віноўнік гэтага злачынства? Ксёндз і званар зрабіцьтак ня могуць. Зразумела, што гэта вучні рамесьніцкай школы, якая знаходзіцца тут-жа ля касьцёлу.

Пачынаецца допыт. Прабуюць розныя прыёмы, каб прымусіць выдаць віноўнага. Устрывожаны губарнатар зьбірае вучняў.

— Сярод вас ёсьць здраднікі-соцыялістыя, апаганіўшыся храм божы. Гэту заразу трэба вырваць з коранем. Скажэце, хто яны?

Адказ—сьмяротэльная цішыня.

Красамоўства не дапамагае. Губарнатар ужывае выпрабаваны сродак: Валодзю і яго таварышоў, быўшых у начальніка на „плохом счету“, арыштоўваюць. Але і турма іх не зламала. Так і не ўдалося царскім прыслужнікам даведацца, хто вывесіў сьцяг.

А справа была простая. Вежа нанач запіралася. Валодзя з сваімі таварышамі падабраў ключы. Уночы прабраліся ў вежу, а потым праз вакенца Валодзя падняўся па вяровачных усходах на самы верх і прымацаваў сьцяг чырвоны сьцяг, які нават у самыя цяжкія гады гаварыў катам: „мы гінем па турмах, мы загнаны ў падпольле, але мы жывы, і мы пераможам“.

* * *

Вандзе 19 год. Ей удаецца скончыць гімназію. Бацька яе рабочы з 15-ці год. Ванда жыве на сваім заработку. За грошы рыхтуе да паступленьня ў гімназію дзяцей багатых мяшчан. Год таму назад яна ўступіла ў партыю, і партыя захапіла яе цалкам.

„Ванда, занясі на фабрыку літаратуру“—і Ванда весела бяжыць міма гарадавога з пакункам забароненых кніг і раздае іх у часе абедзеннага перапынку рабочым. Ванда зьбірае грошы на падтрыманьне бастуючых. Ванда організуе групу моладзі, якая клапоціцца аб таварышох, якія морацца ў турмах. Вандзе, яшчэ маладому партыйцу, даручаюць адказныя выступленьні на фабрыках. Звонкім маладым голасам Ванда кліча рабочых на барацьбу, надае сьмеласьці тым, што яшчэ нерашуча выступаюць на

змаганьне, організуе гурткі. Між Вандай і рабочымі наладжваецца цясьнейшая непарыўная сувязь.

1-га мая 1907 г. Настрой у рабочых не асабліва бадзёры. Ванда бегае з майстэрні ў майстэрню і разам з групай перадавых рабочых кліча масы на вуліцу. Змораная, але бадзёрая, прыходзіць яна да кіраўнікоў забастоўкі. Там шумна абгавareваецца пытаньне, як быць з аднэй фабрыкай. Рабочыя патрабуць агітатара і кажуць, што толькі пры гэткіх умовах ім удасца правесьці забастоўку. А рабочыя высокакваліфікаваныя. Побач з фабрыкай паліцэйскі вучастак і дом губарнатара. Каго паслаць? Трэба выбраць чалавека, якога яшчэ ня ведае паліцыя. Выбар падае на Ванду і маладога наборшчыка.

У фабрычнай сталоўцы склікаецца мітынг. На панадворку стаяць рабочыя на варце. Мітынг пачаўся. Раптам убягае вартаўнік:—На панадворку атрад паліцыі! Ідуць сюды!

Ванда кліча рабочых да выступленьня. Тыя хвалююцца і становяцца да варштатаў. Група рабочых партыйцаў выводзіць Ванду праз фабрычны магазын Ёй цяжка да сьлёз за няўдачу, крыўдна за несьвядомасьць рабочых, якія падрываюць адзінства выступленьня рабочай клясы ў сваё майскае сьвята. **Віленская.**

---

# Шлях да шчасьця.

Прыгожая думка—зрабіць вялікае сьвята рабочых сьвятам вольнае працы.

У капіталістычнай няволі бязыменны працаўнік, тварэц усіх скарбаў зямлі, не разумеў—ня мог разумець—сусьветнага, культурнага значэньня сваёй працы.

Гэта неразуменьне натуральнае, бо паднявольная праца, праца на другіх—катаржная праца, прякляцьце чалавека, але цяпер, таварышы, усе вы працуеце на сябе і для сябе, не разумець гэтага—ніяк няможна.

Улада ў вашых руках, і ўсё, што трэба зрабіць для яе ўзмацненьня, вы павінны самі зрабіць. Усё ў вашых руках, значыцца за ўсё дрэннае, што ёсьць навакол вас, вы нясіце адказнасьць, толькі вы. Скардзіцца — няма на каго, чакаць дапамогі—няма адкуль. Зьвярыная ўражда туняядцаў—усе яшчэ страшная сіла.

Але яшчэ больш магутная сіла—вольная, разумная праца социялістага. Дзесьці ў цёмных кутках навукі прабуюць папрaвіць павуціну, парваную віхрам рэволюцыі. А мы павінны ведаць і ўмець адчуваць, што наша цяжкая, будзённая з выгляду праца мае найглыбейшае значэньне для ўсяго сьвету, што кожная разумная і шчырая натура, накіраваная на змаганьне з беднасьцю, цяпер мае нязвычайна вялізарны сэнс, вялізарнае значэньне. Ці пераможам мы ўродлівыя, неахайныя адносіны да працы, якія ўкараніліся ў цела і кроў нам за вякі няволі? Ці здолеем перамагчы ў саміх сабе той шкодны эгоізм (сябелюбства) і індывідуалізм, які так перашкаджае набываць соцыялістычную сьвядомасьць у тым напрамку, што нам неабходна адважная ўпартая праца?

Гэтыя пытаньні высоўваюць перад намі рабочыя Эўропы, Азіі, Амэрыкі—лепшыя рабочыя ўсяго сьвету.

За нашай работай пільна сочаць дзесяткі мільёнаў вачэй, і хоць бязьдзейнае, неактыўнае спачуваньне ня мае асаблівай каштоўнасьці, ня можа шмат чаго нам даць, аднак будзем спадзявацца і верыць, што тыя, хто сёньня толькі спачувае, заўтра пачнуць актыўна і шчыра пераймаць ад нас.

Таварышы! Усё каштоўнае і разумнае, усё, чым людз маюць права ганарыцца, створана навукай і працай. Гэта простая ісьціна; вялікая ісьціна: яе трэба вывучыць нам так, як веруючыя вывучаюць малітву.

Праца і навука—усё перамогуць: навука і праца разьвяжуць усю цяжкую блытаную нітку жыцьця.

І калі хочаце, каб праца была лёгкай і дзень працы—днём сьвята, укараняйце ў сябе веру ў творчую сілу працы і навукі.

Вясёла і бадзёра—за работу,—няма шляху да шчасьця больш праўдзівага, чым шлях вольнае працы!

**М. Горкі.**

# Экскурсія ў Кітай.



*Кітайская частка гораду Шанхая. „Выльдор“ (павозка), на якой кулі (вазак) перавозіць розны груз, сьпяваючы ўвесь час адны і тыя-ж гукі— „А, о, о, а“.*

У Кітаі жыве больш за 400 мільёнаў народу, што складае блізка чацьвертую частку насельніцтва ўсяе земнае кулі. І аб жыцьці гэткага вялікага народу мы ведаем меней, чымся аб іншых дробных народах. А між тым у жыцьці кітайскага народу ёсьць шмат цікавага, з чым варта пазнаёміцца, хоць збольшага, кожнаму з нас. Дзеля гэтага спрабуем зрабіць экскурсію ў Кітай.

### У дарозе.

Сярод палёў уецца вузенькая дарожка. Яна робіць такія выкрутасы, што толькі дзіву трэба давацца, чаму гэта не пралажылі яе проста. А тлумачыцца гэта тым, што зямлі на гаспадароў прыходзіцца вельмі мала і, каб пралажыць дарогу, выбіраюць месцы, дзе стыкаюцца вучасткі розных гаспадароў, каб ад кожнага адрэзаць пакрысе. Дзеля гэтага яна такая вузкая, што калі сустракаюцца два вазы, дык заўсёды пачынаюцца спрэчкі ды сваркі.

Рух па дарозе бязупынны, але больш пехатою: сяляне з клункамі, карэмусламі, насільшчыкі з таварам на сьпіне, гандляры і рамесьнікі з тачкамі і ўжо радзей павозкі, запрэжаныя коньмі і быкамі. Павозкі на двух колах, але запрэжаны ў пару, бо кожнае кола важыць 5 пудоў, вось $1^1/_2$ пуды ды аглобля, мусіць, з пуд.

Зямля ў Кітаі жоўтая, мяккая, лёгкая (называецца „лёэс“). У сухую пару году з дарогі падымаецца густы пыл і адносіцца ветрам у бок. У часе дажджу вада размывае дарогу. І з цягам часу дарога ўсё паглыбляецца і паглыбляецца і нарэшце робіцца ровам. Нездарма кітайцы кажуць: „кожная дарога праз тысячу год робіцца ракой“.

Вось дарога падыходзіць да ракі, але мосту на ёй няма. Прыходзіцца пераяжджаць на пароме. Пачынаецца вялікая тузаніна, каб пагрузіць цяжкія колы і ўпартых быкоў. Быкоў прыходзіцца цягнуць вяроўкамі за рогі і за хвост разам. Таму ля перавозу заўсёды знаходзяцца чалавек дзесяць—пятнаццаць для гэтай справы, а праежджаму прыходзіцца плаціць усім за дапамогу.

### У вёсцы.

Большая частка кітайскіх вёсак называецца па прозьвішчу тых сямействаў,



*Мост, які злучае дзьве вуліцы Шанхая. Збоку відаць акопы з мяшкоў.*



*Самы лепшы парк Джэсфілд (Шанхай). Для таго, каб аглядзець гэткі парк, патрэбна патраціць ня менш 2-х дзён.*

якія жывуць тутака з даўнейшых часоў. А прозьвішчы людзей, як вядома, вельмі часта бываюць аднолькавыя. Таму, калі незнаёмаму чалавеку трэба трапіць у якую-небудзь вёску Чанг ці Ванг, дык у адным раёне ён знойдзе такіх вёсак з дзесятак.

Але ёсьць і мудрэйшыя назвы, напр.: „Конь без капыта", „Бычачая вёска сямейства Сэн", „Вёска, якая кіруецца вельмі добра".

Хаты пабудованы з гліны, дрэва. У некаторых мясцох проста з зямлі. Столі зусім няма; над галавою толькі страха. Разьмяшчаюцца хаты абыяк, бяз усякага парадку. Знадворку ня бывае ні вакон, ні дзьвярэй. Дзьверы і вакенцы выходзяць на панадворак. Побач з дзьвярмі стаіць пліта; труба ад яе ідзе яшчэ ў ляжанку, а адтуль выходзіць вон збоку ля завалінкі. У кутох стаяць лавы, кросны і розныя дамовыя рэчы. Ложкаў і стала няма. Адзеньне сялян: кашуля і штаны абавязкова з сіняга паркалю, вялізны капялюш і пантофлі. Усюды бруд і беспарадак, таму кітайцы здаўна ўжо лічацца самым брудным народам.

На панадворку невялікае гумно; побач колы, драўляная саха. Звычайная жывёла—сьвіньня, курыца, кошка і сабака; радзей—каза, яшчэ радзей—бык і зусім рэдкая жывёла—конь. Сьвіньня гадуецца ў глыбокай яме; тамака яна і сядзіць увесь свой век. Сабака прывязаны да коліка; ён таксама гадуецца на мяса. На яду ідзе і кошка. Студня ня мае зрубу, яна ідзе толькі да паверхні зямлі, таму ў яе вельмі часта трапляюць ня толькі сабачаняты, кураняты і г. д., але і дзеці.

Лясоў у Кітаі мала. Апал дабываюць дзеці; яны падбіраюць усё, што можа гарэць: кожную галінку, лісьцінку, саломінку...

## На полі.

Большасьць сялян мае каля гэктару (дзесяціны) зямлі. Багатыры маюць 4—6 гэктараў. Кітайцы нават лічаць, што для пражыцьця аднаго чалавека павінна хапіць аднэй семнаццатай часткі гэктара.

Гэта больш-менш магчыма таму, што яны могуць зьняць з свайго поля 2 ураджаі, а ў паўднёвым Кітаі нават 3 ураджаі ў год. Але самае галоўнае—гэта нязвычайная, цярплівая праца кітайца. Ён сядзіць і апрацоўвае кожнае зернятка паасобку, нават абкладае яго ўгна-



*Паліцэйскі-індус на варце цішыні і супакою.*

еньнем. А для ўгнаеньня яны выкарыстоўваюць усё, што толькі можна: і апілкі, і кавалкі вапны ад печкі, і попел ад паперкі, і свае валасы пасьля стрыжкі, і сажу, і здохлага пацука, і гной ад шоўкавічнага чарвяка і г. д.

Лёэс—добрая глеба, але вельмі патрабуе вады. І вось, каб здабыць гэтую ваду, кітайцы робяць такую працу, на якую ніхто з нашых сялян ня пойдзе: і накачваюць ваду, і носяць, і зьбіраюць дажджавую ваду; разьмяркоўваюць палі так, каб з аднаго поля сьцякала на другое.

Для сваёй спажывы яны сеюць галоўным чынам рыж, боб і пшаніцу, а на продаж—чай і бавоўну ды яшчэ тутавыя дрэвы для шоўкапрадаў (чарвякоў).

Бедната прадае нават рыж і пшаніцу, а жывіцца галоўным чынам бобам (бабовы тварог, бабовыя корынкі, бабовы сыр, бабовыя пірагі і г. д.).

Жнуць сярпямі або проста вырываюць рукамі. Але ў гэты час прыходзіцца вельмі абараняць свой ураджай ад птушак і людзей. Сярод народу столькі галоты, што яны ідуць на ўсё, каб толькі ўкрасьці які-небудзь каласок.

Трэба адзначыць, што кітайская бедната часам сама сабе „робіць" зямлю. Пабудуе на рацэ плыт, наносіць мяшкамі зямлі—вось табе і поле. Або зробіць такім самым чынам поле дзе-небудзь на гары, на голым каменьні.



*Дзяўчынка-кітаянка ў сваім нацыянальным касьцюме.*

## Кітайскія дзеці.

Цяжкія ўмовы жыцьця прымусілі кітайцаў цаніць галоўным чынам мужчын, бо яны застаюцца працаваць дома, а дзяўчаты выходзяць замуж і пакідаюць гаспадарку. Калі народзіцца хлопчык,—у сям'і сьвята. Прыходзяць суседзі, вітаюць, прыносяць падарункі. А калі народзіцца дзяўчынка, — ніхто ўжо ня прыходзіць вітаць.

Імёны дзецям даюцца, якія толькі прыходзяць у галаву: „Малпа", „Скрынка", „Камень", „Чацьверты", „Семдзесят" (бо ў гэты час бабцы споўнілася 70 год), „Вялікая ўзнагарода" (бо перад гэтым памёр сын, а гэты ўжо зьяўляецца ўзнагародай). Калі ў сям'і памрэ некалькі хлопчыкаў, бацькі лічаць, што гэта злы дух спэцыяльна шкодзіць ім. Тады ўжо, калі народзіцца другі хлопчык, яму даюць жаночае імя, напр.,—„баба". Гэтым яны думаюць зьбіць з панталыку чорта, бо той будзе думаць, што гэта ёсьць дзяўчынка. Калі дзеці падрастуць, ім дадаюць яшчэ другое імя. Дзяўчатам часам даюць такое імя: „Каб ты была хлопчыкам!"

Бацькі заўсёды працуюць і ня маюць часу выхоўваць дзяцей. Тыя жывуць самапасам: капошацца на сваім панадворку, купаюцца ў бруднай лужыне, гуляюць. Але ў іх ёсьць адзін вялікі абавязак: зьбіраць паліва і ўгнаеньне.

Гэта праца патрабуе шмат часу і цярплівасьці.

Вучыцца кітайскіх дзяцей вельмі мала: на 100 чалавек жыхарства прыпадае 2 вучні.

### Кітайскія забабоны.

Кітайская вера вельмі старажытная і вельмі блытаная. Кітайскія жрацы (паны) мудраць над ёй, але просты народ ня можа ў гэтым разабрацца і жыве пасвойму, апанаваны рознымі духамі. Зразумела, галоўнымі заступнікамі перад гэтымі духамі зьяўляюцца жрацы, і за гэта народ аддае ім апошнія свае крошкі.

Багоў-ідалаў у іх шмат. Кожная вёска мае свайго ўласнага ідала, спэцыялістага ў тэй ці іншай справе. Часам прыходзіцца пазычаць бога ў суседзяй. Асабліва, калі справа ідзе аб дажджы. Калі бог не дае дожджу, дык яго караюць: выстаўляюць яго самого на сонца, хай паспытае на сваёй скуры, што значыць быць без дажджу.

Часам агароджваюць сьцяной усю вёску, каб абараніцца ад злога духа. Пры гэтым наўмысьля блытаюць уваход і выхад, каб злы дух ня трапіў.

Вераць у лятучага зьмея — дракона, які ўсюды малюецца, нават на сьцягах.



*Адна з найдаўжэйшых і прыгажэйшых вуліц Шанхая „Нанкінрод“.*

Галоўным сьвятам лічыцца новы год, які сьвяткуецца ў працягу двух тыдняў, але-ж затое рэшту году працуюць увесь час.

### Кітайская культура.

Больш за 4000 год назад, калі ў Эўропе ўвесь народ быў дзікі,—у Кітаі была значная культура, кнігі, нават порах яны выдумалі. Але з таго часу яны ні на крок не пасунуліся наперад.

Як і ўсюды, галоўнай перашкодай для разьвіцьця культуры зьяўлялася духавенства, якое ўбівала людзям у галаву, што ўсё новае—грэх.

Перашкаджала і цяжкасьць кітайскай граматы, дзе кожнае слова абазначаецца асобнай літарай. Значыцца, колькі слоў, столькі і літар.

Мова кітайская не зьяўляецца адзінай. Розныя раёны гавораць парознаму, але знакі—літары ў іх засталіся агульныя. Такім чынам, зразумець пісаныя знакі яны ўсе змогуць, але вымаўляць кожны будзе пасвойму.

### Лёс кітайскага народу.

Прачытаўшы ўсё, што тутака напісана аб кітайцах, хто-небудзь можа падумаць: вось якія яны дзікія, сьмешныя, дурныя, брудныя і г. д. Але такая думка будзе зусім няправільнай. Можна толькі адно сказаць,—што яны бедныя і цёмныя; а ад гэтага ўжо ўсе іншыя недарэчнасьці.

А бедныя таму, што паны і жрацы наўмысьля трымаюць іх у цемры і сасуць з іх кроў. Асабліва шкодзяць сучасныя генэралы. Яны выкарысталі тое, што народ прыгнечаны і разьяднаны, зрабіліся нібы царкамі кожны ў сваёй вобласьці і бязупынна ваююць паміж сабой.

Але горш за ўсё, што такое становішча выкарысталі замежныя дзяржавы (Англія, Амэрыка, Францыя, Японія) і ўселіся на карак усяму 400-мільённаму народу. У кітайскай дзяржаве больш правоў маюць чужаземцы, чымся самі кітайцы. У кітайскіх гарадох, у гарадзкім садзе, ці рэстаране, або тэатры ёсьць чужаземныя надпісы: „Уваход кітайцам і сабакам забараняецца“. Гэтыя дзяржавы за грошы „купляюць“ сабе тых генэралаў, і тыя працуюць на карысьць чужаземцаў. А церпіць, зразумела, увесь народ.

Нарэшце народ ня вытрымаў і паўстаў спачатку супроць чужаземцаў, а потым і супроць сваіх паноў. Трэці год ідзе барацьба, але вынікаў яшчэ няма.

Трэба спадзявацца, што ўсё-ж такі шматмільённы народ пераможа. І тады Кітай пачне зусім новае жыцьцё. А зрабіць ён зможа шмат, бо, калі праўду сказаць, кітайцы больш працавіты і трывалы народ, чымся эўропэйцы.

А той дзень, калі кітайская рэволюцыя пераможа, будзе сьвятам і для нас, сьвятам, ня меншым за наш Кастрычнік, бо да нас далучацца браты, разам з каторымі мы будзем складаць трэцюю частку ўсяго народу на зямлі.

Я. М.



*Рака Вампу (Шанхай).*

# БЕРАЖЭЦЕ ЯГО!

Лес—самае галоўнае багацьце Беларусі. Ён у нас займае 30 проц. усёй прасторы (каля 4 мільёнаў гэктараў). Каштоўнасьць лесу з кожным годам павялічваецца яшчэ таму, што ўсюды ён зьмяншаецца. Перад рэволюцыяй большасьць нашага лесу належала памешчыкам, і яны так гаспадарылі, што за апошнія 25 год зьменшылі плошчу лесу на 15%. Каб такім чынам яны гаспадарылі і надалей, дык зусім зьнішчылі-б увесь лес. А між тым пры разумнай гаспадарцы можна і карыстацца лесам і захоўваць яго ў цэласьці.

Але такую гаспадарку можа весьці толькі дзяржава. Дзеля таго, каб лес ня зьнішчаўся, яго дзеляць на дзялянкі (50—80) і высякаюць у год па аднэй. Пакуль чарга дойдзе да апошняй,—першая ўжо вырасьце. Які прыватны гаспадар зможа дзяліць свой кавалак на столькі частак і чакаць 80 год, пакуль лес падрасьце?

Вось чаму нельга дзяліць яго паміж сялянамі, як падзелена зямля. Вось чаму лес застаецца за дзяржавай і толькі 14 проц. перададзена сялянам.

Цяжка нават пералічыць усю тую карысьць, якую дае лес. І будынкі, і мэбля, і большасьць патрэбных чалавеку рэчаў робіцца з дрэва.

А колькі можа быць прадпрыемстваў, якія заняты апрацоўкай дрэва! Пільні, фанэрныя фабрыкі, дрэваапрацовачныя заводы. Ня мала іх у нас ёсьць і яшчэ болей будзе будавацца.

Нашы запалкавыя фабрыкі пасылаюць свае запалкі нават заграніцу (у Пэрсію).

Яшчэ важней папера, якая таксама выробляецца з дрэва (яліны). А чым далей, тым болей і болей яна будзе патрэбна.

Нават тканіну можна вырабляць з дрэва. У нас будзе будавацца фабрыка, якая будзе вырабляць штучны шоўк.

Надзвычайна важныя продукты атрымоўваюцца так званым „спосабам сухой перагонкі дрэва“. Дзеля гэтага дрэва награваюць так, каб да яго не дакранаўся ні агонь, ні паветра, награваюць да таго часу, пакуль яно не раскладзецца на ўсе свае часткі.

І тады атрымоўваецца: воцат—дрэўны сьпірт, смала, дзёгаць, шпігінар, каніфоля. Усе гэтыя рэчы вельмі патрэбны ў прамысловасьці, даюць лекі (формалін, хлёроформ, ёдоформ), ідуць на палітуру, мыла, нават на порах і г. д.

Адным словам, калі мы захаваем свой лес, дык у далейшым зможам пабудаваць такую прамысловасьць, што яна адна ўзбагаціць усю краіну.

Затое-ж трэба і даглядаць лес, як сад: ачышчаць ад гальля, сухастою, непатрэбнага хмызьняку, каб усё гэта не перашкаджала росту добрых дрэў. Неабходна весьці барацьбу са шкоднымі чарвякамі і жукамі і г. д.

Апрача ўсяго гэтага трэба і павялічваць плошчу лесу, садзіць новыя дрэвы. За апошнія 5 год такім чынам засаджана лесам каля 30.000 гэктараў. Дзеля таго, каб увесь народ памятаў аб значэньні лесу і дапамагаў у гэтай працы, устаноўлены штогодны „Дзень Лесу", калі ўсюды чытаюцца лекцыі аб значэньні лесу, калі кожны павінен пасадзіць хоць якое-небудзь дрэва. Летась, такім чынам было пасаджана каля мільёна дрэў. Садзяць яго і школы, і піонэрскія атрады, і арганізацыі, і паасобныя людзі. Сядзяць і ў лесе, і ля дарог, і па вуліцах, і ля сваёй хаты.



Піонэры ў гэтай справе павінны ісьці наперадзе. Павінны ўсюды тлумачыць аб значэньні лесу, павінны ўгаварваць кожнага, каб прымаў у гэтым удзел. Ёсьць у нас шмат вёсак, мястэчак, гаспадарак, дзе ня відаць аніводнага дрэва. Гэта і няпрыгожа, і нудна, і шкодна для здароўя.

Хай у гэты дзень у такіх мясцох кожны пасадзіць хоць адно дрэва, — і зараз-жа зьменіцца выгляд мясцовасьці.



Звычайна ў нас ня толькі ня садзяць дрэвы, але, наадварот, — псуюць і зьнішчаюць іх. Асабліва гэта робяць несьвядомыя дзеці; яны ломяць усё, што толькі можна зламаць, а дзе ня могуць зламаць, дык выразаюць з дрэваў кару, ад чаго дрэва гіне. Асабліва церпяць ад гэтага дрэвы ля гасьцінцаў.

Трэба было-б сярод дзяцей організаваць гурткі „прыхільнікаў дрэва", каб сачыць і не дапушчаць такой шкодніцкай працы.

Нават сярод дарослых знаходзяцца людзі, якія не шкадуюць дрэў, асабліва, калі датычыцца дзяржаўнага лесу. Яны ня хочуць уразумець, што лес зьяўляецца агульнай уласнасьцю, што калі-б ім карыстаўся кожны гаспадар па свайму разуменьню, дык ад лесу нічога не засталося-б. За адзін толькі 1926 год такой шкоды зроблена больш, як на 2 мільёны руб.

Хай усюды гучыць кліч:

**Захоўвайце лес!**

**Беражэце яго!**

**Садзеце дрэвы!**

**Лесавод.**




*Апавяданьне*

**Э. Сэтон-Томпсона.**

*Малюнкі* **А. Тычыны.**

Разьдзел X*).

Джэк адчуваў сябе моцна пакрыўджаным. Ён даў сабе зарок, што жыўцом зьдзярэ скуру з маленькіх ваўчанят, калі адшукае іх, і са здавальненьнем марыў аб гэтым. Спроба асачыць Асядланага была няўдачнай, бярлог яго ня быў знойдзены, але Джэк быў падрыхтаваны да розных няўдачаў: на выпадак, калі знойдзе нару, ён узяў з сабою рыдлёўку; на выпадак-жа, калі ня знойдзе,— белую жывую курыцу. Ён пайшоў на пустую палянку недалёка ад таго месца, дзе бачыў Асядланага, і там прывязаў курыцу за палена. Курыца адбеглася, на колькі дазваляла ёй вяроўка, а пасьля паваліласяна зямлю, хлопаючы крыльлямі. Але калі пятля трошкі паслабела, яна пацягнулася ў другі бок і некалькі хвілін прастаяла на нагах, аглядваючыся ва ўсе бакі.

Час праходзіў памалу. Пад вечар Ціто прайшла міма, ідучы на паляваньне. Нара ее была толькі з паўмілі адгэтуль, і яна пільна прытрымлівалася правіла: ніколі не паказвацца на пустым месцы. Раней кайёты звычайна бегалі па самай сярэдзіне ўзгорку, каб можна было агледаць мясцовасьць. Але Ціто ведала, што праз гэта яе напэўна заўважаць, і таму заўсёды бегала па схіле недалёка ад вершавіны ўзгорку, толькі сяды-тады высоўвала морду, каб заглянуць на другі бок.

У гэты вечар яна асьцярожна пайшла здабываць вячэру для сваіх дзяцей, і яе бойкія вочы хутка заўважылі белую курыцу, якая кідалася з боку ў бок.

Ціто была зьдзіулена. Яна пакруцілася наўкола птушкі, якая нібы-та забаўлялася з ёй, але, нарэшце, парашыла лепш пакінуць яе. Яна пайшла далей і раптам заўважыла лёгкую хмарку дыму. Ідучы да яе, яна наскочыла на тое месца, дзе асталяваўся Джэк. Тут была яго пасьцель, пасьвіўся конь са спутанымі нагамі, а на агні стаяў гаршчок з нечым, што нагадвала Ціто вельмі знаёмы пах,— гэта быў пах ад кавы. Ціто нязвычайна напалохалася, калі ўбачыла, што гэтак блізка ад яе бярлогу знаходзіцца чалавек, але яна ўсё-ж такі пайшла на паляваньне. А Джэк так і не даведаўся, які госьць у яго пабыў.

Разьдзел XI.

На заўтра курыца зноў была прывязана на тым-жа самым месцы і толькі пасьля поўдня папалася на вочы Асядланаму. Ён спыніўся, паглядзеў на яе, потым асьцярожна пачаў набліжацца. Курыца захлопала крыльлямі, стараючыся вырвацца з пятлі. Але Асядланы скок-

*) Глядзі „БП“ № 6 і 7.

нуў, схапіў яе з такою злосьцю, што парваў вяроўку і кінуўся наўцекі ў свой бярлог.

Джэк у гэты час быў задрамаў, але кудахканьне курыцы пабудзіла яго, і ён пасьпеў пабачыць кайета. Як толькі той зьнік з вачэй, Джэк пайшоў па сьцежцы, на якой скрозь былі пацярушаны белыя пер'і. Спачатку сьлед быў вельмі ясны, бо курыца, змагаючыся з Асядланым, патраціла шмат пер'яў, але, пасьля таго, як яна зусім змаглася і зайшлася ў зубах Асядланага, пер'яў стала рассыпацца ўсё менш. Але Джэк спакойна і з пэўнасьцю ішоў па сьляду, які цягнуўся амаль простаю сьцежкаю. Раз ці два толькі была затрымка,—калі кайёт трохі мяняў кірунак або калі на шляху зусім не спатыкаў кустоў, на якіх заставаліся-б пер'і; але аднэй белай пярынкі на адлегласьці пяцідзесяці шагоў ад другой было даволі Джэку, каб зноў знайсьці згубленую сьцежку. Калі змеркласся, Джэк быў усяго ў якіх-небудзь двухстах шагох ад бярлогу, дзе ў гэтую самую хвіліну дзевяць ваўчанят, бурчачы і захлынаючыся пер'ямі, смакавалі мяса белай курыцы.

Калі-б цяпер узьняўся вецер, дык адзін подых яго данёс-бы да Джэка цэлую кучу белых пер'яў і шум, які прывеў-бы Джэка да бярлогу. Але вячэрняя цішыня спусьцілася на зямлю, і трэск галінак, якія Джэк ламаў, уважна стараючыся адшукаць хоць адну белую пярынку ў хмызьняку, што аддзяляў яго ад бярлогу, заглушаў усе іншыя гукі.

У гэты час Ціто варочалася дамоў, нясучы ў зубах сароку, і напала на сьляды Джэка. У тых краёх, калі чалавек ідзе пяшком, ён ужо сам па сабе зьяўляецца нечым страшным і зьвяртае на сябе запададзронасьць з боку кайёта. Ціто пайшла па сьляду, каб разабрацца, куды накіраваўся чалавек. Па адчуваньню паху яна тут-жа знайшла напрамак хады чалавека. Якім чынам гэта ўдаецца жывёлам, ніхто ня ведае, але ўсе паляўнічыя даказваюць, што жывёла заўсёды, унюхаўшыся ў сьляды, разьбярэцца, куды вядуць яны. Ціто зразумела, што гэтыя сьляды ішлі проста да яе бярлогу. Спалохаўшыся гэтага, яна схавала сароку ў кустах і пабегла далей па сьляду. Праз некалькі хвілін яна адчула сваім нюхам прысутнасьць чалавека ў кустах і зразумела ўсю небясьпеку, якая пагражала ёй. Борзда і спакойна абышоўшы ўзгорак, яна падышла да бярлогу, выводзячы ціхі, знаёмы дзецям, гук. Але выгляд бярлогу і ўсяго ўзгорку, якія былі цяпер нагэтулькі прыкметнымі, дзякуючы белым, як сьнег пер'ям, напэўна, зьдзівіў яе. Яна дзіка закрычала; гэты крык напамінаў сабою небясьпеку. І ўсё заціхла на маленькім лужку.

Ціто пераканалася, што чалавек, якога яна заўседы ведала як істоту самую небясьпечную, пах якой заўсёды прадказваў ёй бяду,—што гэты чалавек блізка ад яе маленькіх, сочыць за імі і, магчыма, ужо праз нейкі момант часу будзе трымаць іх у сваіх руках.

О, якая мука сквавала сэрца маткі, калі яна ўявіла сабе гэты страшны малюнак! Але гарачае каханьне маткі зараз-жа выклікала на дапамогу ўсю мудрасьць маткі. Адаслаўшы маленькіх назад у бярлог і ўмоўным знакам перадаўшы аб трывозе Асядланаму, яна борзда вярнулася к чалавеку і прайшла міма яго. Не разьбіраючыся дакладна ў тым, што робіць, яна была ўпэўнена, што чалавек павінен пайсьці па адзнаках паху яе сьлядоў, усё роўна такжа сама, як яна-б гэта зрабіла сама, і што, зразумела, ён выбера больш сьвежыя сьляды, якія яна цяпер пакідала за сабою. Яна не разумела, што ў поцемках усе сьляды для чалавека былі аднолькавымі. Яна пабегла наперад і засьпявала самую дзікую і злосную песьню, якую толькі ведала,—тую, якая гэтулькі разоў прымушала сабак ляцець за ёй. Прасьпявала і спынілася. Пасьля падбегла бліжэй к чалавеку і засьпявала зноў, падбягаючы ўсё бліжэй і бліжэй, будучы ўпэўненай у тым, што ён пабяжыць, нарэшце, за ёю.

Але чалавек ня мог убачыць кайёта, таму што змрок ужо сышоў на зямлю. Джэк прымушаны быў кінуць паляваньне. Але ён здагадаўся, што голас кайёта быў ні што іншае, як голас маткі, якая старалася адцягнуць яго ўвагу ад бярлогу. З гэтага Джэк зрабіў для сябе вывад, што бярлог павінен быць недалёка і што яму астаецца толькі вярнуцца сюды-ж заўтра і скончыць пачатую справу. Таму ён вярнуўся назад да свайго месца.

Разьдзел XII.

Асядланы думаў, што яны атрымалі перамогу. Ён адчуваў сябе вольным, бо ведаў, што пах сьлядоў, па якіх мог адшукаць бярлог чалавек, да раніцы зьнікне. Ціто-ж была менш спакойнай.

А Джэк напаіў свайго каня, зварыў каву, павячэраў і закурыў перад сном цыгару, сяды-тады ўспамінаючы аб маленькіх пушністых ваўчанятках, якія заўтра рана будуць у яго руках.

к месцу, дзе знаходзіўся Джэк, гэтак ціха, што конь пачуў яе толькі тады, калі яна была ўжо на сто шагоў ад яе. Конь фыркнуў і затрапятаўся так, што вяроўка, якою ён быў прывязаны, туга нацягнулася. Ціто спакойна рушылася наперад, і, шырока разявіўшы вялізны рот, схапіла вяроўку гострымі, як ножны, заднімі зубамі. Яна пажавала некалькі хвілін і лёгка перагрызла моцна нацягнутую вяроўку. Конь апынуўся на волі. Ён ня быў асабліва ўстрывожаны, бо



*Асядланы скокнуў, схапіў яе.*

Ён ужо зьбіраўся абхінуцца сваёй цёплай коўдраю, калі дзесьці далёка ў цемры пачулася песьня кайёта. Чуваць былі цягучыя пералівы двух галасоў. Джэк прыслухаўся, хітра ўсьміхнуўся і сказаў: „Так, усё ў парадку. Сьпявайце сабе, галубчыкі. Раніцой пабачымся“.

Гэта быў звычайны начны крык кайётаў. Ён гучэў ня доўга, а пасьля ўсё заціхла. Джэк хутка забыўся аб ім і моцна заснуў.

Крык гэты быў Ціто і Асядланага не дзеля пустой забавы. У іх была ясная пэўная мэта—даведацца, ці былі ў іх ворага сабакі, і, не пачуўшы адказу, Ціто пераканалася, што сабак ня было.

Яна пачакала з гадзіну ці больш, пакуль вагеньчык зусім не патух. Толькі фырканьне каня, шчыпаўшага траву, парушала мёртвую цішыню, якая панавала на палянцы. Тады яна ціха падкралася

пах кайётаў быў яму знаёмы. Зрабіўшы ўсяго некалькі крокаў, конь спыніўся.

Стук ад падкоў каня пабудзіў чалавека. Ён падняўся, аглянуўся, але, убачыўшы, што конь стаіць на месцы, зноў спакойна заснуў.

Ціто скокнула была ў бок, але цяпер зноў вярнулася паціханьку, быццам цень, абышла нярухомую чалавечую фігуру і панюхала каву ў бляшанцы. Сьледам за ёй з цемры высунуўся Асядланы, паглядзеў на скавародку, на якой ляжала куча сухароў, і закідаў яе гразёю. Поруч на нізкім кусьціку вісела вобруць; кайёты ня ведалі, што гэта такое, але проста дзеля забавы парвалі яе на дробныя кавалачкі. Нарэшце, схапіўшы мяшкі, дзе ляжалі сала і мука Джэка, яны занесьлі іх далёка ў поле і там закапалі ў пясок. Нарабіўшы такім чынам свайму ворагу

як можна больш шкоды, Ціто і Асядланы накіраваліся ў канаву, якая знаходзілася ў некалькіх мілях адгэтуль. У гэтай канаве Ціто асачыла ўжо нару, выкапаную нейкай жывёлай, а пасьля пашыраную шмат якімі другімі,—між іншым, лісіцай, якая старалася выгнаць адтуль жыхароў. Ціто спынілася і ўважліва аглядвала розныя месцы, раней, чым дайшла да гэтай нары; дайшоўшы да яе, пачала хутка яе пашыраць. Асядланы наглядаў за ёю, і ня ведаў ён, у чым тут справа. І толькі калі яна, змораная, вышла з нары, ён палез туды і, пільна абнюхаўшы нару, пачаў капаць зямлю заднімі нагамі. Калі ззаду ў яго вырасла цэлая горка зямлі, ён вышаў і адкінуў яе далей.

Гэтак капалі яны некалькі гадзін, не абменьваючыся ні адзіным гукам, але ўсё-ж такі яны нагэтулькі разумелі адзін другога, што адзін заўсёды дапамагаў другому. І да ўсходу сонца перад імі была нара, якая магла быць ім бярлогам і ў выпадку небясьпекі, хоць, зразумела, гэту нару нельга было і параўнаць з іх зручнай хаткай на ўзгорку, што парос-увесь дзікай травою.

### Разьдзел XIII.

Сонца ўжо ўзыходзіла, калі Джэк прачнуўся. Як кожны стэповы жыхар, ён раней за ўсё аглянуўся, ці тут яго конь. Каня ня было. Конь для жыхара стэпу тое-ж самае, што карабель для марака або крыльлі для птушкі. Без каня ён падобны на чалавека, які загубіўся ў акіяне, ці птушку, якая абламала сабе крыльлі. Стаць пешым у стэпу—значыцца, нажыць тысячы няпрыемнасьцяй. Нават п'яніца Джэк разумеў гэта, але раней, чым ён дакладна ацаніў утрату, ён убачыў далёка наперадзе свайго каня, які пасьвіўся на лузе і ўсё ўдаляўся ад яго стаянкі. Паглядзеўшы больш уважліва, ён убачыў, што конь цягнуў за сабой вяроўку. Калі-б вяроўкі ня было, нельга было-б і думаць злавіць каня. Тады-б Джэк і не стараўся яго дагнаць, а адразу накіраваўся-б на паляваньне У гэтым выпадку кайётам пагражала нямінучая сьмерць. Але, убачыўшы, што вяроўка цягнецца за канём, Джэк парашыў паспрабаваць злавіць яго.

З усіх рэчаў на сьвеце, здольных зьвесьці чалавека з розуму, самая горшая — гэта, калі ў пагоні за канём яму ўсё здаецца, што вось-вось ён схопіць яго. Як ні стараўся Джэк, што толькі ён ні рабіў, яму ніяк не ўдавалася наблізіцца да каня нагэтулькі, каб схапіцца за вяроўку. І ён скакаў за вяроўкаю ў розныя бакі, пакуль, нарэшце, яны не апынуліся на дарозе, што вяла на фэрму Чымней-Пот.

Няшчасны Джэк, страціўшы ўсялякую надзею, парашыў ісьці за канём проста на фэрму.



*Яна пажавала некалькі хвілін і перагрызла вяроўку.*

Ён прайшоў ужо каля 7 міляў, калі яму ўдалося, нарэшце, зноў заўладаць сваім канём. Ён ускочыў у сядло і за чвэрць гадзіны прыляцеў астатнія тры мілі да фэрмы; тут ужо ён даў волю гневу і спагнаў каню. Зразумела, гэта не дало ніякай карысьці, але ён зрабіў гэта проста для свайго задавальненьня.

На фэрме Джэк перакусіў і, захапіўшы з сабою сабаку, які ўмеў асочваць ваўкоў, ужо падвечар выехаў зноў на паляваньне.

Джэк даехаў да групы дробных узгоркаў, якія знаходзіліся зусім блізка ад нары, і там, амаль ня нос к носу, натрапіў на кайёта, які трымаў у роце вялікага кроліка. Кайёт скочыў назад у тую-ж самую хвіліну, калі Джэк стрэліў з рэвольвэра, а сабака, заенчыўшы і заяхкаўшы, кінуўся наперад.

Джэк пасылаў кайёту наўздагон адзін за другім стрэлы, сабака ляцеў за ім па пятах, а кайёт, на зьдзіўленьне Джэка, упарта ня выпушчаў з роту кроліка. Ніводзін стрэл Джэка не папаў у кайёта. Калі яны пераляцелі праз узгоркі, Джэк, пакінуўшы сабаку і кайёта, пайшоў шукаць нару, якая па яго падліку была дзенебудзь недалёка. Джэк ведаў, што ваўчаняты яшчэ там.

Нару ён сапраўды скора знайшоў. Ён ухапіўся за работу і цэлы дзень пракапаўся, пашыраючы дзірку нары. Па ўсіх адзнаках відаць было, што ў нары сапраўды жылі кайёты. Поўны радаснага спадзяваньня, Джэк усё капаў і капаў; пасьля некалькіх гадзін самай цяжкой працы, якую яму мала калі даводзілася рабіць, ён, нарэшце, дакапаўся да канца бярлогу і ўбачыў... што нара была пустой. Ад гэткага адчаю і расчараваньня Джэк страшэнна вылаяўся, праклінаючы свой лёс, а пасьля адзеў свае вялізныя моцныя скураныя рукавіцы і пачаў абшнарваць нару. Раптам ён наскочыў на нешта цьвёрдае. Гэта аказалася галава яго ўласнага вялікага індзюка, — вось і ўсё, што ён атрымаў за сваю працу і пакуту.

Разьдзел XIV.

Ціто ня траціла часу, пакуль яе вораг лавіў свайго каня. Скончыўшы пабудову свайго новага памяшканьня, яна вярнулася ў стары бярлог і на парозе яго была спаткана дзяцьмі з вялікімі галовамі, надзвычайна падобнымі на яе. Яна схапіла аднаго за шыю і панесла ў новы бярлог, што знаходзіўся мілі за дзьве адгэтуль. Час-ад-часу яна павінна была спыняцца, каб адпачыць і самой і маленькаму. Перапынкі гэтыя вельмі затрымлівалі пераноску, ад чаго прышлося патраціць на гэту справу некалькі гадзін. Ціто не дазволіла Асядланаму перанесьці ніводнага малога,—напэўна таму, што ён быў вельмі няспрытны.

Пачынаючы з самага дужага і вялікага, усе дзеці былі перанесены па чарзе, і пасьля паўдня ў старым бярлогу астаўся толькі слабенькі кайёт. Ціто ня толькі працавала ўсю ноч, але зрабіла за раніцу каля трыццаці міль, пры гэтым палову такой дарогі яна прабегла з дзяцьмі ў зубах. Але ёй было рана яшчэ думаць аб адпачынку. Якраз, калі яна выходзіла з бярлогу, трымаючы маленькага ў зубах, на верхавіне таго самага ўзгорку, дзе была яе старая нара, зьявіўся сабака, а трохі ззаду паляўнічы Джэк.

Як куля, паляцела Ціто, моцна трымаючы свайго малога, і гэтак-жа борзда кінуўся за ёю сабака.

Рэвольвэр грымеў за ёй бесьперапынку, але ніводная куля не закранула яе. Ціто пераляцела праз гару, — цяпер куля ўжо не магла дагнаць яе. Зморaная Ціто са сваім маленькім імчалася ўперадзе, а вялізарны люты сабака з усёй сілы за ёю.

Калі-б Ціто ня была гэткай зморанай і бегла без малога, яна борзда-б пакінула далёка ззаду сабаку. Але цяпер сабака, усё больш злуючы, пачынаў даганяць сваю ахвяру. Ціто сабрала сваю апошнюю сілу, куляй узьляцела на ўзгорак і пасьля, набыўшы трохі адлегласьці, пусьцілася зноў у даліну, дзе густая трава трохі спыняла яе бег. Але вось зноў яна апынулася на зусім пустой раўніне, і паляўнічы, які астаўся далёка ззаду, зноў убачыў яе і пачаў страляць яшчэ часьцей, чым раней. Праўда, кулі толькі ўзрывалі зямлю і ўзьнімалі пыл, але Ціто ўсё-ж такі даводзілася заўсёды мяняць напрамак, каб ухіляцца іх. Такім чынам, яна траціла час, між тым, калі сабаку стрэлы толькі падганялі. Джэк пазнаў Ціто. Ён бачыў, што яна ўсё яшчэ

трымае ў зубах кроліка, і дзівіўся такой упартасьці. „Чаму яна ня кіне гэты лішні ценжар, калі справа набліжаецца да сьмерці?“ думаў ён.

Раптам перад Ціто адчынілася невялікая канава. Стомленая, яна не адважылася пераскочыць праз канаву, а абегла кругом.

Але сабака зусім яшчэ не змарыўся і лёгка пераскочыў праз канаву. Цяпер адлегласьць паміж імі скарацілася на палову. Ціто імчалася ўсё наперад, стараючыся трымаць свайго малога вышэй— над калючымі іголкамі кустоў. Але пры гэтым яна трымала яго гэтак моцна, што малы пачаў захліпацца ў яе зубах. Бегчы яшчэ доўга з малым Ціто зусім не магла. Яна хацела моцна закрычаць, прызываючы гэтым на дапамогу, але цяжкі камяк у яе роце заглушаў голас. Ваўчанё захліпалася, і калі Ціто паспрабавала трымаць яго трошкі слабей, ён сашчаўкнуўся з зубоў і раптам упаў у траву, амаль не пад ногі сабаку.

Ціто была значна меншай ад сабакі; у другі час яна, зразумела, напалохалася-б, але цяпер яна думала толькі аб тым, як выратаваць сваё дзіця. Калі сабака скокнуў, каб схапіць яго, Ціто вырасла між імі і замерла. Першы напад на ваўчанё быў адбіты, і Ціто, скарыстаўшы гэты момант, моцна завыла.

З усіх бакоў рэха падхапіла яе голас, так што Джэк ня мог распазнаць, адкуль ён. Але затое быў хтосьці другі, хто пачуў гэты кліч і зразумеў яго. Сабака зноў скочыў на ваўчанё, і зноў матка адбіла яго напад сваім уласным целам. Яны счапіліся адзін з другім не на жыцьцё, а на сьмерць. О, калі-б толькі ў гэты час Асядланы прышоў! Але ніхто ня прыходзіў і ня было больш магчымасьці клікаць на дапамогу. Ціто хутка ўпала на зямлю, змагаючыся да канца, але, відаць, змарылася дашчэнту. Але раптам з бліжэйшага куста вылецеў які-сьці шэры клубок. У адзін момант злосны сабака быў адкінуты назад ворагам такім-жа дужым, як і ён сам. Яшчэ міг—і стары Асядланы падабраў яго пад сябе. У сабакі не хапіла



*Ціто хутка ўпала на зямлю...*

духу, каб паклікаць гаспадара, і праз некалькі хвілін кайёты разарвалі яго.

А пасьля Ціто падняла свайго выратаванага малога, і яны, не сьпяшаючыся, пацягнуліся к сваёй новай хаце.

У гэтай новай хаце маленькія ваўчаняты жылі сабе ціха і спакойна, пакуль не даведаліся аб усім тым, чаму навучыла іх бацькоў жыцьцё ў раўнінах і нядаўняя вайна з фэрмэрамі.

Там жылі і пажывалі ня толькі яны, але і дзеці дзяцей іх...

Кайёты асьцерагаюцца капканаў і атруты, яны ведаюць, як перахітрыць паляўнічага і сабаку. Іх спрытнасьць ня меншая за кемлівасьць чалавека. Яны пазналі тое, як можна жыць у краіне, што залюднена іх найлютымі ворагамі.

І ўсяму гэтаму навучыла іх Ціто.

*Канец.*

# СУСТРЭНЕМ ЛЕТА ПАДРЫХТАВАНЫМІ.

## Як рыхтуюцца ў Барысаве.

Намі атрымана некалькі лістоў з Барысава, паводле якіх можна меркаваць, што ў гэтым горадзе падрыхтоўка да лета разгарнулася шырока і своячасова.

Па ўсіх атрадах склікаюцца сходы бацькоў, дзе ставяцца пытаньні аб практычнай дапамозе лягернаму фонду. Дзякуючы агітацыі сваіх дзяцей, бацькі ў большасьці выпадкаў ахвотна адгукаюцца і даюць сваю згоду на адлічэньне вядомай сумы ў карысьць лягераў.

Практыкуюцца ў барысаўскіх піонэраў і іншыя мэтады зьбіраньня сродкаў. (Платныя вечары, кіно-сэансы, падпісныя лісты сярод дарослых, узносы саміх дзяцей). Атрад пры фабрыцы „Чырвоная Бярэзіна“ організаваў пераплётны гурток, які за спэцыяльную плату пераплятае кнігі для фабрычнай бібліотэкі і школы.

Але на гэтым падрыхтоўка да лягеру ня спыняецца. Піонэры шукаюць шляхоў да таго, каб ажывіць летнюю працу, зрабіць яе больш цікавай і разнастайнай. Вось некалькі прыкладаў:

У Барысаве створаны курсы для старэйшых піонэраў па падрыхтоўцы з іх організатараў гульняў і нескладаных фізкультурных практыкаваньняў у атрадах.

Вучні 2-й Барысаўскай 7-гадовай школы стварылі музычны гурток, куды ўваходзяць піонэры і дзеці, якія ўмеюць граць на розных музычных струмэнтах. Гэты гуртох ужо дае невялічкія концэрты для школ. У далейшым ён зможа абслугоўваць таксама і піонэрскія атрады.

## Прывабім карысных птушак.

Нядаўна сход вучняў Крушынаўскай школы Рагачоўскага раёну ставіў пытаньне аб барацьбе са шкоднікамі, якія ўлетку псуюць нашы сады, палі і агароды.

Даклад настаўніка, як змагацца са шкоднікамі, быў праслухан з вялікай увагай. Перайшлі да конкрэтных прапаноў.

— А ведаеце што, хлопцы, — сказаў адзін вучань,—кожнае лета да нас прылятаюць у вялікім ліку шпакі, якія зьнішчаюць шкоднікаў. Як-бы гэта нам прывабіць да сябе гэтых карысных птушак, каб яны змагаліся са шкоднікамі ў нашых садох і агародах?

— Я ведаю,—умяшаўся адзін вучань.— *У чацьвёртым нумары часопісі „Б. П.“ быў зьмешчаны артыкул аб тым, як пабудаваць шпакоўніцу з дупла дрэва.* Гэта можна лёгка зрабіць.

Прачытаўшы артыкул, аб якім ішла гутарка, вучні прынялі наступную пастанову: кожнаму пабудаваць шпакоўніцу, якую і паставіць у сваім агародзе ці садзе.

Некаторыя вучні ўжо такія шпакоўніцы пабудавалі.

## Як яны купаліся.

Але ня ўсюды так рыхтуюцца да лета. Яшчэ дзе-ні-дзе гэтая прадрыхтоўка ня мае належных правоў, яе яшчэ „ўціскаюць“.

Піонэры Брамінаўскага атраду (Гомельшчына) са зьяўленьнем скупых праменьняў раньняга сонца парашылі, што ўжо настала лета і пайшлі ў рэчку купацца. Цікава, што ніхто іх ня спыніў, не растлумачыў, што купацца ў красавіку рана, што гэта можа шкодна адбіцца на іх здароўі.

Наш дапісчык не паведамляе, чым скончылася гэтае „купаньне“. Мабыць, не адзін з заўзятых купальшчыкаў цяпер ляжыць прастуджаны ў хаце і шкадуе аб сваім учынку.

На такой „падрыхтоўцы“ да лета мы, зразумела, далёка не паедзем.

## Буркоў... разважае.

„З наступленьнем летняга часу піонэры павінны ажывіць сваю працу, а таксама перанесьці свае заняткі на сьвежае паветра. Дзеля гэтага нам трэба слухаць гутаркі павадыра, палепшыць фізвыхаваньне і г. д.“...

Такімі словамі пачынаецца артыкул піонэра Буркова (мяст. Прапойск) пад назвай: „Ажывім працу атрада“.

У артыкуле Буркова маюцца ўсім даўно вядомыя разважаньні аб тым, як трэба атраду ўлетку працаваць. Але дарэмна мы будзем шукаць там хоць аднаго радка, які-б быў прысьвечан падрыхтоўцы прапойскіх піонэраў да лета. Я. З.

*(Паводле допісаў Горфінкеля, Кавалёва, Кугеля, Ахрамчука і Б. Т.).*

# ТАМ, ДЗЕ ПРАЦУЮЦЬ ДОБРА.

## Адпачынак у барысаўскіх піонэраў.

За зімовы тэрмін у горадзе праведзена шмат шахматна-шашачных спаборніцтваў. Пасьля гэтага чэмпіонаты атрадаў зрабілі агульна-гарадзкі піонэрскі турнір, у якім прымала ўдзел 70 асоб.

Гэтыя спаборніцтвы далі магчымасьць выявіць лепшых шахматыстаў і далей разьвіваць гэтую працу ў організацыі.

Большасьць атрадаў за гэты час праводзілі вечары самадзейнасьці і вечары, ахвяраваныя розным рэволюцыйным сьвятам, на якіх праводзілася „Віктарына“, „Політ-аукцыён“ і сэанс адначасовай, агульнай гульні ў шахматы.

Акрамя „афіцыяльнай“ часткі праводзіцца наступнае: стральба на меткасьць, разьвязваньне задач, шарад, рэбусаў і чытка мастацкіх твораў.

Таксама праводзяцца вечары ўсёй організацыі, на якіх выступае *Гарадзкі дзіцячы тэатр* і выступаюць асобныя атрады. Тэатр дае: пастаноўкі, балет, фізвыступленьні, струнны оркестр, гумарыстычныя апавяданьні ды інш.

У гэтым годзе Гар. Бюро організавала колектыўныя наведваньні піонэрамі і вучнямі рэволюцыйных кіно-фільм.

За зімовы тэрмін атрады разгарнулі працу розных гурткоў і майстэрняў. Амаль што ўсе атрады маюць па некалькі гурткоў і майстэрняў.

**Капкін, Кац, Горфінкель, Паўлоўская.**
Барысаў.

## Зьвеньневы вечар.

2-е зьвяно наладзіла зьвеньневы вечар. Усе піонэры склаліся па 15 кап. Злажылі вусную газэту. Вечар быў праведзены ў піонэра дома.

На вечары была „шамоўка“, вусная газэта, а потым піонэры гулялі ў розныя гульні і сьпявалі розныя піонэрскія песьні.

Калі мы організоўвалі гэты вечар, дык ставілі перад сабой наступныя задачы: узмацніць яшчэ больш дружбу паміж піонэрамі і навучыцца праводзіць вечары.

Задачы былі выпаўнены, і піонэры здаволеныя пайшлі дахаты.

**В. Мебель.**
(Барысаў, атр. № 100 пры ЦРК).

## Добры пачатак.

Канчаецца зіма. У прыродзе пачынаецца новае жыцьцё. Гледзячы на зьмену пары году, захацелі і вучні Зембінскай сямігодкі зрабіць сваё жыцьцё лепшым, цікавейшым і здаравейшым. Пад кіраўніцтвам вучня 7-ай групы Зелінкі організаваўся „фізвыхаваўчы гурток“. У яго залічылася 24 вучні, з іх 5 дзяўчат і 19 хлопцаў.

Сябры гуртка рыхтуюцца да заняткаў: яны купляюць матэрыю і шыюць з яе лёгкія спортсмэнскія вопраткі. У хуткім часе фізкультурнікі хочуць распачаць сваю працу.

**Е. Зомэрфэльд.**
(Зембінская 7-годка, Барысаўскага раёну).

## Праца ажывілася!!!

За зіму праца нашага атраду палепшылася. Атрад замест 21 мае 28 чалавек. На агульных зборах атраду прысутнічае заўсёды шмат неорганізаваных дзяцей.

Працы атраду значна перашкаджае тое, што наш с.-с. разьбіты на 50 хутароў. Дзякуючы гэтаму, піонэры жывуць ад вёскі часамі вёрст за 5 і ня могуць добра наведваць атрад.

У студзені гэтага году атрадам была праведзена лётарэя, якая дала 3 рублі прыбытку. На гэтыя грошы наш атрад выпісаў часопісі і газэты, у тым ліку на 6 месяцаў і „Б. П.“

**А. Мальеў.**
(Пятрыкоў, Мазырскай акр., в. Конкавічы).



**Акцябратам для чытаньня.**




*Апавяданьне* **А. Цітавай.**

*Малюнкі* **Тараса.**

Сёньня сьвята. У хаце Адама сабралася некалькі мужчын. Сын Адама, Юрка, сядзеў каля вакна і чытаў кніжку.

Сяляне гаманілі паміж сабой аб сваім жыцьці, аб сваёй гаспадарцы, аб сёлетняй зіме.

— Што ты там усё сам сабе пад нос чытаеш? — пытаецца ў Юркі дзед Аніс:—ты-ж бы грамчэй пачытаў, і мы-б пачулі, што ў тваёй кніжцы напісана.

— І то праўда,—дадаў другі селянін,—пачытай хіба нам, а то аб усім перагаманілі і гаманіць болей няма аб чым,

Юрку доўга прасіць ня трэба. Ён адшукаў у кніжцы артыкул: „Вёска наша будучына“ і адкашляўся.

— Ну, слухайце, і не бунтаваць мне,—сказаў Юрка і пачаў чытаць.

„Вышаў малы Якуб на просты шлях. Па бакох гэтага шляху расьлі роўныя белыя бярозкі, а за бярозкамі віднелася поле. З правага боку расло жыта, высокае, густое. З левага—аўсы, ячмяні, канюшына. Ды якія!? Ніколі яшчэ Якуб ня бачыў гэткага аўсу, гэткага ячменю і канюшыны. Якраз з яго ўвышкі. А пра жыта і казаць нечага. Як лес.

Ідзе Якуб, ідзе. І ўсё больш і больш дзівіцца, усё больш і больш цікавіцца. Забыўся, што пайшоў шукаць свайго каня, які ўцёк з начлегу. Ішоў гэтак шляхам Якуб, ішоў і прышоў да вёскі. Каля вёскі стаіць слуп. На слупе прыбіта дошчачка. На дошцы напісана: „Наша будучына“.

Толькі ўвайшоў Якуб у вёску, чуе недзе гамоняць і сьмяюцца дзеці. Бачыць Якуб вялікі сад, у садзе вялікі дом. Тут бегаюць і гуляюць дзеці. „Толькі гэта, мусіць, не вясковыя дзеці“, падумаў Якуб. Усе яны апрануты ў чыстыя прыгожыя вопраткі. Гуляюць дзеці ў розныя гульні. Тут-жа ў садзе тры жанчыны.

„Мусіць, настаўніцы“, падумаў Якуб. Стаіць Якуб каля саду, дзівіцца на дзяцей. Вось убачыў яго адзін хлопчык, падышоў і кажа:

— Хадзі да нас гуляць, а тады пойдзем палуднаваць разам.

Падышло і яшчэ некалькі дзяцей і пачалі клікаць Якуба. Якуб пайшоў з імі. Дзеці папыталіся ў яго імя і пачалі паказваць яму свае цацкі.

— А чый гэта мячык?—пытаецца Якуб у дзяцей.

— Як чый?—пытаюцца дзеці.— Гэта мяч. Мы гуляем з ім. Адкуль ты да нас прышоў?

— Я з вёскі „ Старына",—адказвае Якуб.—Шукаю я свайго каня.

— Чаму цябе аднаго паслалі каня шукаць?—пытаюцца дзеці,

— Наш конь, дык я і пайшоў шукаць. Бацьку некалі, а хлопцаў у нас у сям'і больш няма. Я быў з канём на начлезе, конь уцёк, я і пайшоў яго шукаць.

Глядзяць дзеці на Якуба і ніяк не зразумеюць, з якога начлегу ўцёк конь, чаму Якуб адзін пайшоў яго шукаць.

— Пойдзем гуляць у мячык, хочаш, Якуб?—пытаюцца яны.

Нагуляліся ў мячык і пайшлі палуднаваць, пайшоў з імі і Якуб. Перад полуднем ўсе памылі рукі. Увайшлі у вялікі пакой. Пасярэдзіне яго стаялі сталы, засланыя чыстымі белымі абрусамі. Селі ўсе дзеці. Жанчыны прынесьлі ім есьці на талерках. Сядзелі дзеці ціха і елі стравы. Еў і Якуб. Дужа смачныя былі яму стравы. „У нас і на вялікдзень гэткіх страў няма", падумаў Якуб. Глядзіць ён, дзівіцца і ня ведае, куды гэта ён папаў. „Пасьля абеду папытаюся", падумаў Якуб.

„І як гэта яны ядуць, не разьліваючы і не раскідаючы нічога". Ён як ні стараўся, гледзячы на іх, не разьліць, але разьліў крыху на абрус, а пад стол кінуў костку і скарынку хлеба. Падышла да яго жанчына, падняла костку і скарынку і паклала ў місачку, якая стаяла на стале. „У гэткую прыгожую місачку ды скарынкі і косткі кладуць", падумаў Якуб.

Папалуднавалі і зноў усе вышлі ў сад.

— Скажы ты мне,—пытаецца Якуб у аднаго хлопчыка,—якія вы дзеці, чый гэта дом?

— Мы сялянскія дзеці з вёскі „Наша Будучына", — адказвае яму хлопчык.

Тут да іх падышла жанчына і сказала:

— Я бачу, Якуб, што ты з усяго дзівішся, усім цікавішся. Хадзі, я табе раскажу пра гэту вёску, пра гэтых дзяцей.

— Сягоньня ў нас дзень адпачынку, і мы не працуем. Гэты дом— школа. Тут мы жывём і вучымся, гуляем і адпачываем.

І павяла жанчына Якуба праз увесь сад. Бачыў Якуб тут роўненькія, добра выпаланыя градкі. На градках расла вялікая гародніна.

— Гэта праца дзяцей,—кажа яму жанчына.

Яны вышлі на шырокую чыстую вуліцу, з прыгожымі, сьветлымі будынкамі. Па вуліцы ехалі трактары, на якіх сядзелі некалькі мужчын, вясёлых, здаровых, у чыстых вопратках.

Якуб вельмі спужаўся трактараў і ўхапіўся за жанчыну. Далей ён убачыў вялікі будынак. Ад гэтага будынку ішлі жанчыны і несьлі малако.

— Хадзі, пакажу табе сялянскае быдла,—кажа яму жанчына.

Яны падышлі да будынку. Якуб убачыў вялікую хату з вокнамі і падлогай. Хата падзелена загародкамі, і ў кожнай загародцы стаіць вялікая, здаравенная карова. Падлога ў будынку чыстая. Тут і вадаправод.

— А вось там сялянскія сьвіньні,—кажа жанчына.

— А коньмі ў вас не працуюць?

— Поле ў нас агульнае і урабляюць яго трактарамі. І косяць, і

жнуць, і возяць,—усё трактарамі. У гэтай вёсцы ўсё агульнае. „У с ё ў с і х!“ Вось тут камуна, там млын, там коопэратыў. А вунь тыя будынкі, дзе абедаюць усе сяляне і дзе вараць жанкі страву на ўсіх сялян. Ёсьць тут і дзіцячы дом, і некалькі школ, дзе вучацца і жывуць дзеці рознага ўзросту. Гэта вёска, як вялікая фабрыка, якая вырабляе сельска-гаспадарчыя продукты дзеля сябе і на патрэбу іншых рабочых. Усе сяляне добра ведаюць, як весьці гаспадарку. Усе яны, як мужчыны, так і жанчыны, добра пісьменныя. Бачыш, Якуб, як усё тут добра, чыста. Якія вясёлыя, здаровыя дзеці. Бо ім лёгка працаваць, добра жыць. Кожны ведае сваю працу на кожны дзень.

На вуліцы з імі сустракаліся людзі. Усе яны казалі: „добры дзень“ і глядзелі на Якуба.

Стала цямнецца. Раптам запалілася шмат лямпачак, ды гэткіх сьветлых, што Якуб вочы заплюшчыў. І стала сьветла, як удзень. Ва ўсіх будынках, нават у хлявох, запаліліся гэткія лямпачкі. Гэтак стала прыгожа, што Якуб стаяў, разявіўшы рот, і ня мог прагаварыць ні слова.

— Ну, пойдзем-жа, Якуб, у школу,—кажа яму жанчына.




*— Ну, слухайце, і не бунтаваць мне,—сказаў Юрка і пачаў чытаць.*

Яны пайшлі. Дзеці былі ўжо дома. Яны сядзелі за сталамі і пілі нешта з прыгожанькіх, беленькіх кубачкаў. Жанчына пасадзіла Якуба і яму далі піць нешта салодкае, смачнае, якога ён зроду яшчэ ня піў, і гэткі смачны пірог далі яму,—кажа, не пайшоў-бы ён ніколі дамоў, але калі ўспомніць бацьку, маці, успомніць, што яны, можа, шукаюць там яго і каня, дык сумна стала Якубу. Якуб падышоў да жанчыны і кажа:

— Я пайду дамоў. Каня не знайшоў. Бацька і маці сварыцца будуць.

— Куды-ж ты пойдзеш? Цяпер ужо вечар. Пераначуй, а заўтра пойдзеш.

Якуб і рад быў гэтаму. Ён пабег разам з дзецьмі ў вялікі пакой, у якім ад лямпачак было сьветла, як удзень. Адны вучні пачалі гуляць у гульні, другія селі за маленькія столікі каля сьцен і пачалі хто чытаць прыгожыя кніжкі, хто маляваць малюнкі. Усе былі вясёлыя. Ніхто не сварыўся, ня лаяўся.

Гуляў з імі і Якуб. Гуляў і разглядаў прыгожыя малюнкі ў кніжцы.

Увечары Якуба вымылі, надзелі яму чыстую бялізну і палажылі спаць у чыстую пасьцель. Моцна заснуў Якуб і ў сьне бачыў сваю вёску, свайго каня. Бачыў, быццам яго вёска стала прыгожая, новая, сьветлая. А конь яго ўсё рос, рос і з яго раптам вышаў трактар... На гэтым трактары сядзіць ён, Якуб, а ўсе сяляне сядзяць і дзівяцца з яго. Раптам як забурчыць трактар, як зашуміць... Спужаўся Якуб, як зьляціць з трактара і... прачнуўся...

Бачыць, ён зьляцеў з пасьцелі на падлогу. Ужо сьветла. Дзеці яшчэ сьпяць. А на вуліцы бурчыць і шуміць нешта. Усхапіўся Якуб, падышоў да вакна і бачыць, што ў вёсцы паўставалі людзі і едуць некуды на трактарах. Адзеўся борздзенька Якуб. Вышла тая жанчына, што яму ўчора ўсё паказвала.

— Што, Якуб, ужо ўстаў, дамоў зьбіраешся, — кажа яна: — ня ідзі, дам табе пад‘есьці і пойдзеш.

Накарміла яго жанчына.

— Ну, а цяпер ідзі, там сяляне абяцалі даць табе каня. У нас тут ёсьць некалькі, ды яны нам ня вельмі патрэбны.

Павяла яго жанчына ў будынак, у якім стаялі прыгожыя, чыстыя коні. Адзін селянін чысьціў іх.

— Ну, хлопчык, на табе каня і кацi дамоў. На табе і пісульку, што мы табе гэтага каня даруем. Конь спакойны, толькі добра глядзі яго і кожны дзень чысьці.

Сеў Якуб на каня, падзякаваў і паехаў дамоў, ня помнячы сябе ад радасьці. Шпарка бег яго новы конь. К поўдню быў ён ужо на сваім двары. Якім брудным паказаўся яму яго двор. З хаты вышла ма-




*Да іх на двор прыходзіла шмат сялян, каб пацікавіцца канём.*

ці ў бруднай вопратцы; яна ўбачыла чужога каня і на ім свайго Якуба.

— Адкуль гэта ты на гэткім кані?—зьдзівілася яна.

Тут на двор прышоў бацька. Ён недзе касіў, бо нёс касу.

— Чый гэта конь?—запытаўся і ён у Якуба.

— Гэта мне далі ў прыгожай вёсцы, дзе ўсе сяляне маюць усё агульнае і працуюць усе разам,—адказвае Якуб.

— Што ён блузьніць?—закрычала маці.

Да іх на двор прыходзіла шмат сялян, каб пацікавіцца канём. Якуб паказаў запіску пісьменнаму хлопцу. Хлапец прачытаў: „Гэтага каня падарыла хлопчыку Якубу вёска „Наша будучына“.

— А наш конь учора сам да дому прыскакаў,—дадала маці“.

— Вось і ўсё прачытаў,—сказаў Юрка і зачыніў кніжку. Пакачалі галовамі сяляне.

— Цікава, вельмі цікава ў кніжцы пішуць,—адгукнуўся дзед Аніс.

— А ці можа быць сапраўды гэткая вёска?

— Можа,—сказаў Юрка.—Толькі трэба вучыцца, вучыцца і вучыцца, як казаў Уладзімер Ільліч Ленін.

---

# НАША ВІКТАРЫНА.

## Разьдзел 5-ы.

1. Што такое процант?
2. Якія 2 вялікія рэчкі ў СССР злучаюцца каналам?
3. Ці ёсьць рака Урал?
4. Хто быў апошнім царом у Расіі?
5. Каму належыць цяпер Бэсарабія?
6. Ці водзяцца ў СССР зубры?
7. Чым кусае гадзюка?
8. Ці можна ехаць ракою ўверх па плыні?
9. Якая розьніца між гукам і літарай?
10. Які 5-ты звычай піонэраў?
11. Што ты ведаеш пра комсамольца Ботвіна?
12. Каго называюць „Старой Гвардыяй“?
13. Хто такі Кнорын?
14. У якой краіне самая большая колькасьць насельніцтва?
15. Адкуль здабываецца крэйда?
16. Чаму летам дрэнна насіць чорную вопратку?
17. Што такое сэпаратар?
18. Калі цьвіце ліпа?
19. Што такое „Чалавек ідзе“?
20. Што такое Інбелкульт?

## Адказы на разьдзел 4-ы.

1. Вокны пацеюць ад таго, што халоднае паветра, якое ідзе з надворку, ахаладжае цёплае хатняе паветра, ад гэтага атрымліваюцца кропелькі вады (ахалоджаная пара).
2. Галоўным чынам у Донбасе.
3. Савы.
4. Таму, што ў ствале яна мае вінтавыя нарэзы, па якіх ідзе куля.
5. На Крымскім.
6. У Нямеччыне.
7. У Сэйфулінай.
8. Гэта такая сыстэма, распарадак у працы ці вучобе: даецца пэўнае заданьне, якое павінен прарабіць піонэр ці увесь атрад за пэўны час.
9. У 1919 годзе, 1-га студзеня.
10. Таму, што гэты дзень прызнаны ўсімі працоўнымі днём барацьбы за волю прыгнечаных ва ўсім сьвеце.
11. У Аршаншчыне—Асінаўская электра-станцыя.
12. Піонэр—гэта чалавек, які сьмела ідзе на ўсялякую барацьбу, каб правесьці ў жыцьцё сваю мэту і гэтым самым пралажыць шлях для людзей, якія ідуць па яго сьляду.
13. Украінскі пісьменьнік.
14. Прылада (у форме мяшка), якая прапускае для дыханьня толькі ачышчанае паветра, затрымліваючы газы. Ужываецца на вайне.
15. Іскра, якая атрымліваецца ад электрычнасьці.
16. Хваёвы.
17. З нітак, якія вырабляюцца чарвякамі шоўкапрадамі (накшталт павуценьня, якое бывае на нашых дрэвах); гэтак-жа сама робіцца і штучна.
18. Харкаў.
19. Таму, што выціснутая ім вада важыць больш, чым апушчаная ў ваду часта дрэва; дрэва такім чынам ня можа праўваць вады і тануць.
20. Стары стыль—гэта даўнейшы спосаб летазьлічэньня, які быў у нас да 1917 году. Новы стыль больш правільны: ён адкідае памылку старога стылю, якая заключаецца ў тым, што год лічыўся меншым, чым ён ёсьць сапраўды. Ад гэтага набралася розьніца на 13 дзён.








**Жыткевічу, Бірычу** і іншым таварышом, якія просяць выслаць ім квіткоў на збор падпіскі „Бел. Піонэр".

Выдавецтва „Чырвоная Зьмена" і рэдакцыя часопісі нікому квіткоў не высылае. Любы піонэр ці вучань здае падпіску і грошы ўпаўнаважанаму па друку, які выбіраецца пры кожным піонэрскім атрадзе ў школе, а апошні—усю падпіску здае на бліжэйшую пошту.

**Гаўрылаву**.—Рэдакцыя нікому дармова часопісяй не высылае. Трэба ў сваім атрадзе арганізаваць падпіску.

**Кавалёву.**—Допіс „Добры прыклад піонэраў" ня будзе зьмешчан. Пастаўце аб гэтым пытаньне на сходзе комсамольскай ячэйкі.

**Ксяндзову**.—Твой артыкул „Піонэр, абараняй птушак" друкавацца ня будзе. Аб гэтым пісалася ў „Бел. Піон." № 4 за гэты год.

**Жынгецу**.—З твайго допісу „Расіцкі атрад" яшчэ ня відаць, як працуе ваш атрад. Ты пішаш аб тым, што ўжо вядома ўсім піонэрам пра работу атрада (што атрад расьце, праводзяцца сходы і г. д.),—гэта для чытачоў ня цікава. Старайся пісаць, як і што робіцца, конкрэтна.

**Піонэру.**—„Лётарэйшчыкі" ня пойдзе. Напішы ў насьценную газэту.

**Караткевічу А.**—У тваіх допісах: „Маем дасягненьне", „Толькі на паперы", „Дзень Чырвонай арміі",—высьветлены толькі факты (напр., пры школе адчыніўся інтэрнат на 45 чалавек і ўсё). Факты самі па сабе цікавыя, але чытач хоча ведаць, якім парадкам вы організавалі інтэрнат, адкуль узялі сродкі і як жывуць там вучні, іх работа і г. д. Допісы ня будуць зьмешчаны.

**Кагановічу** і **Грынфэльду**.—У сваім допісе „Няма сувязі" вы пішаце, што вашы атрады ня маюць сувязі і прапануеце гэткую наладзіць,—гэта правільна. Але з допісу ня відаць, што вы абгаварвалі гэта пытаньне ў сябе на сходзе альбо ставілі пытаньне перад Райбюро Ю. П., каб наладзіць сувязь з яўрэйскім атрадам. Спачатку трэба абгававаць у сябе. Допіс надрукаваны ня будзе.

**Маку.**—Допіс „Дзяткоры, вазьмецеся за працу" ня пойдзе. Ты прапануеш дзяткорам свайго атраду ўзяцца за распаўсюджваньне дзіцячага друку, але цікава, ці ўносіў ты прапанову на сходзе піонэраў.

**Куську.**—Пішы пра работу краязнаўчага кутка.

**Файтліну**.—Допіс „Супроць рэлігійных сьвят" ня пойдзе таму, што ў ім выказаны толькі прапановы аб сьвяткаваньні. Цікавей было-б, каб ты напісаў, як вы організавалі ў сябе антырэлігійнае сьвята.

**Кручкову.**—Малюнак „Прышла вясна" ня пойдзе. Лепш напішы, як ваш атрад рыхтуецца к лету.

**Ландарскаму.**—Допіс „Праца аднаўляецца" ня пойдзе. Напісана агульнымі словамі.

**Чурынцу**.—Твае допісы „У вёсцы на начлег вядучы" і „Няшчасьце на начлезе" зьмешчаны ня будуць. Лепш пішы пра работу атрада.

**Бародка.**—Зьбіраць народныя казкі можна і пажадана, але зборнік гэтых казак наўрад ці зможа быць выданы асобна. Сабраныя казкі можаш прыслаць у Цэнтральнае Бюро Краязнаўства пры Інбелкульце (Менск, Рэволюцыйная, 21), якое зьбірае казкі.

**Александровічу А.**—Артыкул „Акруговая конфэрэнцыя дзіцячых устаноў" да часопісі не падыходзіць. Артыкул перададзены для выкарыстаньня ў Цэнтральны Піонэрскі Габінэт.

**Медзьвядзёву.**—Допіс „Як працаваў наш атрад у працягу 3-х год" напісаны суха у форме справаздачы, ён будзе няцікавым для нашых чытачоў

**Махначову.**—Допіс аб паводзінах піонэра Голубава можаш зьмясьціць у насьценнай газэце, а таксама абгаварыць пытаньне на зьвяне і агульным зборы атраду.

**Зянькову**.—З допісу „За пашырэньне „Бел. Піон." ня відаць, што ваш атрад правёў гэткую работу. Трэба спачатку самім правесьці работу аб пашырэньні падпіскі, а пасьля і раіць іншым.

**Піонэру** (Койданава).—Рэдакцыя ня можа вам дапамагчы купіць гальштукі для піонэраў. Пастаўце пытаньне аб гальштуках на сходзе бацькоў альбо на сходзе КСМ ячэйкі.

**Курбацкаму.**—Твае вершы не надрукавалі таму, што яны слабаватыя. Вось прыклады: „Я—вясковы пастушок, хто ранюсенька зарою моцна грае у ражок *сабіраць быдла таўпою*". Такія выразы, як „сабіраць быдла таўпою"—незразумелыя і гучаць дрэнна паводле граматычняга сэнсу. А гэткіх мясьцін у тваіх вершах шмат. Вучыся яшчэ, гэта будзе карысьней.

**Усім піонэрам і вучням якія зьвяртаюцца з просьбай аб залічэньні ў дзяткоры нашай часопісі.** Рэдакцыя паведамляе, што ніякіх залічэньняў (афіцыйных) рэдакцыя ня робіць. Той, хто піша допісы ў нашу часопісь, той і лічыцца нашым дзяткорам.




## Загадкі.

1.

Калі хочаш ты чытаць,
Дык мяне павінен знаць.
Бо калі мяне ня знаеш,
То й радка не прачытаеш.

2.

Якія ногі, такі й нос,
Па балоце ходзіць скрозь.
Хату на хаце мае,
Жабам рахунак знае.

3.

Што за воўк такі бывае:
Усе кашулі праядае,
Сам сталёвы; хвост-жа мае
Канапляны ён?

4.

Удзень адпачываю,
А ўночы лятаю:
Мае вочы
Бачаць і ўночы.
Хто разгадаў,
Прашу, каб сказаў.

### Ці правільна ідзе гадзіньнік?

Перад вамі вежа з гадзіньнікам.

Гадзіньнік, як бачыце, паказвае 8 г. раніцы. Аднак, гэта няправільна, калі меркаваць па некаторых адзнаках малюнку. Якія гэтыя адзнакі, што сьведчаць аб няправільнасьці гадзіньніка?



5.

Растае сьняжок,
Зелянее лужок,
Дзень прыбывае,—
Калі гэта бывае?

6.

На капусьце я радзіўся,
І капустаю жывіўся,
На капусьце і памёр я,
Але зноў аджыў я скора.
Толькі ўжо ня тым я стаў,
Бо раней я не лятаў.
Цяпер добра я лятаю,
Бо свае я крылцы маю.

### Абман зроку.




**Тут нарысаваны шар і простая скрынка. Ня мераючы, адкажэце, што больш — дыямэтр шара ці шырыня верха скрынкі? Бязумоўна, калі вы дакладна праверыце, дык акажацца, што шар нават ня ўлазіць у скрынку.**

7.

Віса вісіць, хода ходзіць,
Хто ні прыдзе, той і доіць.

8.

Дарога рыпіць,
Сьнег трашчыць,
Дзень збывае,—
Калі гэта бывае?

9.

Апусьцелі палі,
Мокра на зямлі,
Дождж палівае,—
Калі гэта бывае?

10.

Сонца пячэ
Што дзень—ярчэй,
Жыта дасьпявае,—
Калі гэта бывае?

1-я друкарня БДВ. Заказ № 2151. У ліку 3205. Галоўлітбел № 1117.

